


*Грамадска-палітычная газета для жыхароў Бялыніцкага, Круглянскага і Шклоўскага раёнаў*

# Рэгіён

**КРАСАВІК 2016 г.** **№ 4(63)**

## КАЛОНКА НАВІН

**Более 60 тысяч семей в Могилевской области нуждаются в улучшении жилищных условий по состоянию на конец 2015 года.**

На учете нуждающихся в улучшении жилищных условий, по состоянию на конец 2015 года, в Могилевской области состояло 64 479 граждан (семей). Большая часть (59043) - в городах и поселках городского типа, в сельских населенных пунктах – 5 436 граждан (семьи). По сравнению с аналогичным периодом 2014 года общее количество граждан, состоящих на учете нуждающихся в улучшении жилищных условий, уменьшилось на 287.

Из общего количества состоящих на учете нуждающихся в улучшении жилищных условий 34332 молодые семьи, 2614 – многодетные, 3293 – граждане, имеющие право на получение жилых помещений социального пользования, сообщает mogilevnews.by.

**Средняя заработная плата** по народному хозяйству Белыничского района в феврале 2016 года сложилась на уровне Br5399,5 тыс.

**Белорусские колхозы либо убыточны, либо неплатежеспособны.**

Из 1039 хозяйств системы Минсельхозпрода 208 — убыточны, 452 — неплатежеспособны, подсчитали в Минфине.

Расходы консолидированного бюджета для агропромышленного комплекса в 2016 году составят 16,2 трлн рублей или 94,8% к уровню предыдущего. Сумма бюджетной поддержки на 2017 год вырастет до 17,1 трлн рублей.

# ПРА КОНЕЙ, МУДРЫХ КІРАЎНІКОЎ І ПЕНСІЯНЕРАЎ

**Не паспелі клапатлівыя беларускія чыноўнікі ў чарговы раз падняць для шчаслівых беларусаў тарыфы на ЖКГ, якія чамусьці, нягледзячы на пастаянныя падвышэнні, мы аплочваем нібыта ўсё меней, як любімы кіраўнік ашчаслівіў народ чарговай навіной – на пенсію зараз будзеце выходзіць на тры гады пазней, мужыкі-“коні” і жанчыны, якіх “бабулямі не назавеш”.**




На думку Аляксандра Рыгоравіча, беларускі мужык у 60 гадоў - гэта конь, на якім яшчэ трэба араць, а пазней пераворваць. Ну а жанчына ў 55 яшчэ “ягадка”, якая пакрыўдзіцца, калі яе назавеш “бабуляй-пенсіянеркай”. Праўда, сам Рыгоравіч у сваім эскорце чамусьці дзяўчат значна маладзейшых трымае, а пажылую жонку даўно ў Шклове пакінуў. Аднак яму тут нашмат лепш бачна, нездарма ж ужо амаль дваццаць два гады краінай нязменна кіруе.

Ну а наконт мужыкоў-коней наш любімы кіраўнік вывады зрабіў, мяркую, глянуўшы ў люстэрка на свой адбітак і азірнуўшыся навокал на сваіх верных чыноўнікаў. Пенсіянер Аляксандар Рыгоравіч разам з заслужанымі пенсіянерамі Міхаілам Мясніковічам, Мар’янай Шчоткінай, Уладзімірам Андрэйчанка, Пятром Пракаповічам і шматлікімі іншымі высокімі чыноўнікамі выглядаюць вельмі нядрэнна, і гатовы працаваць, кіруючы неразумнымі беларусамі, аж пакуль у труну не лягуць. Зразумела, пенсію яны пры гэтым усё роўна атрымліваць будуць, бо даўно яе зарабілі не толькі па ўзросце, а яшчэ і як дзярслужачыя, якія ў нас лічуцца, на раўні з шахцёрамі і працаўнікамі гарачых цэхаў, ільготнікамі, падарваўшымі здароўе, седзячы за сталамі ў органах улады.

Што ж датычыцца простых беларускіх мужыкоў, то вельмі рэдка хто з іх сябе ў шэсцьдзесят гадоў канём лічыць. Нават тыя, каму пашчасціла да гэтага ўзросту дажыць, бо 48% беларускіх мужчын да шасцідзесяці

*(Працяг на стар. 4)*

## “ГАВАРЫ ПРАЎДУ” ПАЧАЛА ПАДРЫХТОЎКУ ДА ВЫБАРАЎ НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ

**Экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года Таццяна Караткевіч і кіраўнік кампаніі “Гавары праўду” Андрэй Дзмітрыеў у першай палове сакавіка наведалі тры раёны Магілёўскай вобласці.**




Мэтай паездкі лідараў “Гавары праўду” у Шклоўскі, Круглянскі і Бялыніцкі раёны было азнаямленне з сацыяльна-эканамічнымі праблемамі рэгіёна і сустрэчы з мясцовымі жыхарамі і грамадскімі актывістамі ў межах падрыхтоўкі да парламенцкіх выбараў 2016 года.

Кампанія “Гавары праўду” ужо вызначылася з верагодным кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў па Шклоўскай выбарчай акрузе №90, у якую ўваходзяць Бялыніцкі, Круглянскі і Шклоўскі раён, а таксама частка Магілёўскага раёна і горада Магілёва. Падчас наведвання рэгіёна было аб’яўлена, што ў якасці кандыдата ў дэпутаты па гэтай выбарчай акрузе “Гавары праўду” падтрымае індывідуальнага прадпрымальніка з Бялыніч Пятра Шымбалёва. Пётр Шымбалёў разам з Караткевіч і Дзмітрыевым наведаў Шклоў і Круглае, каб бліжэй пазнаёміцца з мясцовымі актывістамі ў гэтых гарадах, паразмаўляць з месцічамі пра найбольш хвалюючыя іх праблемы.

Пётр Шымбалёў кажа, што падчас сустрэчаў шэраг грамадскіх актывістаў з Шклоўскага і Круглянскага раёна выказалі жаданне далучыцца да яго каманды на будучых парламенцкіх выбарах. Па словах прэтэндэнта ў кандыдаты ў дэпутаты, ва ўсіх раёнай Шклоўскай выбарчай акругі людзей найбольш хвалюе адсутнасць магчымасці знайсці годную працу з добрым заробкам. Аднак у кожным райцэнтры існуюць і свае спецыфічныя праблемы.

Лідары “Гавары праўду” пабывалі на рынку і будоўлі лядовага палаца ў Шклове, паразмаўлялі з мясцовымі жыхарамі на вуліцах Круглага. Таксама адбылася нефармальная сустрэча за кубачкам гарбаты з мясцовымі актывістамі ў Бялынічах, на якой у шэрагу іншых абмяркоўваліся пытанні падрыхтоўкі да парламенцкіх выбараў.

Неабходна адзначыць, што бялыніцкія ўлады адмовілі ў прадастаўленні залы для правядзення сустрэчы жыхароў горада з былым кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь на выбарах 2015 года Таццянай Караткевіч.

Партыя БНФ таксама ўжо вызначылася з верагодным кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў на парламенцкіх выбарах па Шклоўскай выбарчай акрузе. На сумесным пасяджэнні Магілёўскіх абласной і гарадской Радаў ПБНФ была вырашана, што вылучацца ў якасці кандыдата ў дэпутаты па нашай акрузе будзе намеснік старшыні Партыі БНФ, кандыдат у прэзідэнты на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года Рыгор Кастусёў.

*Барыс Вырвіч*

## ЗАРПЛАТА В БЕЛАРУСИ ПРОДОЛЖАЕТ СНИЖАТЬСЯ

**Номинальная начисленная средняя зарплата работников в Беларуси в феврале 2016 года составила 6 млн. 615 тыс. 737 рублей, пишет БелаПАН.**

Как сообщил Национальный статистический комитет, в феврале 2016 года реальная зарплата (с учетом инфляции) по сравнению с февралем 2015 года снизилась на 4,6%.

В промышленности в феврале средняя зарплата составила 7 млн. 40 тыс. рублей, в строительстве — 6 млн. 843,7 тыс., на транспорте — 7 млн. 352,6 тыс., в сельском, лесном и рыбном хозяйстве — 4 млн. 429,7 тыс., в образовании — 4 млн. 999,7 тыс. рублей. Средняя зарплата работников здравоохранения составила 5 млн. 552,8 тыс. рублей.

Максимальной зарплата была у работников сферы, связанной с информационными технологиями, — 34 млн. 30,6 тыс. рублей, минимальной — в области предоставления социальных услуг (4 млн. 17,3 тыс.).

Максимальная среднемесячная начисленная зарплата работников в феврале текущего года среди регионов была в Минске — 9 млн. 475 тыс. рублей, минимальная — в Могилевской области (5 млн. 593,8 тыс.). В Брестской области средняя зарплата составила 5 млн. 652,4 тыс. рублей, в Гомельской — 5 млн. 901,3 тыс., Гродненской — 5 млн. 639 тыс., Минской — 6 млн. 517,3 тыс., Витебской — 5 млн. 639,5 тыс. рублей.

# УЛАДЗІМІР КАНАВАЛАЎ – ЗМАГАР З КЛІМАВІЦКАЙ КАРУПЦЫЯЙ І ЯЕ АХВЯРА

**Колішняга старшыню Клімавіцкага райвыканкама і былога дырэктара ААТ “Новая Друць” Уладзіміра Канавалава можна лічыцца сімвалам пераменлівасці жыцця – з князёў у гразь і наадварот.**

Першым значным скандалам у Клімавіцкім раёне, які звязаны з імём Уладзіміра Канавалава, лічацца падзеі 2000 года. Тады старшыня райвыканкама выступіў з адкрытым лістом у мясцовай газеце “Родная ніва”, дзе абвінаваціў у злоўжываннях кіраўніцтва раённай міліцыі і супрацоўнікаў Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода.

“Уладзімір Канавалаў тады сцвярджаў, што пайсці на такі нестандартны крок – апублікаваць у газеце адкрыты ліст – яго прымусілі надзвычайныя абставіны і тое, што ён больш не ў стане моўчкі процістаяць карупцыі ў раёне. Пасля разбіральніцтваў і праверак у Клімавіцкім раёне з’явіліся новыя начальнік РАУС і дырэктар лікёра-гарэлачнага завода”, - пісала ў 2002 годзе “Звязда”.

Высокапастаўлены змагар з карупцыяй у лістападзе 2001 года быў адзначаны сваім начальнікам – беларускім прэзідэнтам, які ўручыў Канавалаву ордэн Пашаны за значны ўклад у сацыяльна-эканамічнае развіццё, стварэнне рэальных умоў для павышэння ўзроўню жыцця насельніцтва і эканамічная бяспекі краіны, дабрасумленнае выкананне службовых абавязкаў.

Але вельмі хутка са змагара з карупцыяй Уладзімір Канавалаў пераўтварыўся ў яе ахвяру. Так, напрыканцы 2002 года стала вядома, што ў адносінах да яго ўзбуджана крымінальная справа акурат па карупцыйным артыкуле – крадзяжах шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі. Так паведамлялі разнастайныя крыніцы, у прыватнасці тая ж “Звязда”. Але ад узбуджэння справы ў адносінах да Канавалава да вынясення яму прысуду прайшло тры гады, за якія фігурант паспеў здзейсніць яшчэ адно карупцыйнае злачынства.




“Па матэрыялах следства даказаны два эпізоды, калі У.Канавалаў перавысіў службовыя паўнамоцтвы. У 1999 годзе кіраўнік раённай адміністрацыі даў указанне невядомым асобам падрыхтаваць фіктыўны ліст за подпісам міністра сельскай гаспадаркі на адрас дырэктара Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода аб абавязковым пералічэнні прадпрыемствам 5 млрд рублёў за кошт Клімавіцкага райсельгасхарчу.

У ліпені-жніўні 2004 года мытныя органы канфіскавалі 113 тысяч літраў бензіну, якія з Расіі ў Мінск ад імя неіснуючай расійскай фірмы везлі беларускія прадпрымальнікі. У.Канавалаў распарадзіўся, каб канфіскаваны бензін быў перададзены для патрэб раёна”, - паведамляў тады БелаПАН са спасылкай на старшыню Гомельскага аблсуда, які судзіў былога старшыню райвыканкама, Людмілу Міхалькову.

5 студзеня 2005 года Гомельскі абласны суд на падставе артыкула 167 ч. 2 Крымінальнага кодэкса ад 1960 года, які дзейнічаў на перыяд здзяйснення злачынства, і артыкула 427 ч. 3 дзеючага цяпер Крымінальнага кодэкса прыгаварыў У.Канавалава да 4 гадоў пазбаўлення волі за перавышэнне службовых паўнамоцтваў.

У Шклоўскай калоніі Канавалаў правёў меней трох гадоў і ў 2008 годзе зноў кіраваў людзьмі. Ён быў прызначаны дырэктарам ААТ “Новая Друць”, што ў Бялыніцкім раёне, і раней належала Нацыянальнаму банку. Некаторыя прасочваюць сувязь паміж гэтым прызначэннем і начальнікам галоўнага упраўлення Нацбанка па Магілёўскай вобласці Раісай Лычкоўскай, якая ў тыя часы была яшчэ і намесніцай старшыні Магілёўскага аблсавета дэпутатаў.

Вельмі хутка ўсе былыя грахі Канавалава былі забытыя, і праўрадавая прэса зноў стала спяваць яму хвалебныя оды. “В «Новой Друти» уж точно работают на результат — охотно и с полной самоотдачей. А причины этому две. Первая — директор предприятия Владимир Коновалов горит работой и не представляет, как можно иначе относиться к делу. Вторая — команду он себе подобрал соответствующую: такое впечатление, что эту крепость под названием «Новая Друть» не возьмешь никакой армией! Все болеют за дело, как будто оно их собственное, и для каждого интересы предприятия — даже не на первом месте, а на самом главном”, -

*(Заканчэнне на стар. 4)*




## УЛАДЗІМІР КАНАВАЛАЎ – ЗМАГАР З КЛІМАВІЦКАЙ КАРУПЦЫЯЙ І ЯЕ АХВЯРА

*(Заканч. Пачатак на стар. 3)*

пісала ў лістападзе 2012 года "Белорусская нива", незважаючы на тое, што да таго "Новая Друць" паўтары гады не магла аддаць кампенсацыю за выняты зямельны надзел жыхару аграгарадка Вялікая Машчаніца Барысу Вырвічу. Прычынай сталі, як тлумачыў тагачасны начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Бялыніцкага райвыканкама Аляксей Цапко, цяжкасці ў "Новай Друці" з травянымі кармамі. Пры тым, што на «Дажынках-2011» у Маладзечне гаспадарка была ўзнагароджана як пераможца ў спаборніцтве па нарыхтоўцы гэтых самых травяных кармоў, а Уладзімір Канавалаў стаў "Чалавекам года 2011" у Бялыніцкім раёне ў галіне "Вытворчая дзейнасць". Аб гэтым у тым жа 2012 годзе паведаляла "Хартыя97".

Судзімасць за карупцыю Канавалава надзейна хаваюць бялыніцкія ўлады. Так, падчас выбараў 2014 года дэпутатаў райсавета інфармацыю аб гэтым не распаўсюджвала райвыканкамаўская газета "Зара над Друццю", пра што пісаў сайт Праваабарончага цэнтра "Вясна". У выніку Канавалаў стаў дэпутатам.

Сёння дэпутат ужо сыйшоў са свайго дырэктарства. Пэўны час ён працаваў намеснікам кіраўніка "Новай Друці". Прычынай, як кажуць у Бялыніцкім раёне, стаў пагоршаны стан здароўя Канавалава, зараз ён наогул ужо атрымлівае пенсію па інваліднасці. Шчыра хацелася б, каб стан яго здароўя палепшыўся, і можна было б зноў назіраць за ўзлётамі і падзеннямі былога барацьбіта з клімавіцкай карупцыяй.

***"Наш Магілёў"***

## ПРА КОНЕЙ, МУДРЫХ КІРАЎНІКОЎ І ПЕНСІЯНЕРАЎ

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

папросту не дажываюць, амаль усе, за рэдкім выключэннем, скардзяцца на здароўе і зношаны арганізм. Ды вы і самі бачыце, паважаныя чытачы, колькі ў нашым рэгіёне самотных адзінокіх жанчын дажываюць свой век без мужыкоў, якія ўжо знайшлі свой прытулак на мясцовых могілках. Ну а пасля таго, як мужчыны пачнуць выходзіць на пенсію ў шэсцьдзесят тры гады, наогул няшмат каму з іх на гэтай пенсіі давядзецца крыху пажыць…

Праўда, гэта выснова не датычыцца слаўных прадстаўнікоў шматлікіх сілавых структур нашай квітнеючай краіны і мудрых чыноўнікаў, якія працягнуць выходзіць на пенсію нашмат раней за звычайных беларусаў. Ведаеце, я шмат гадоў прафесійна займаюся журналістыкай, аднак да гэтага часу не магу даведацца лічбаў, колькі сродкаў з бюджэту затрачваецца на пенсіі чыноўнікам, пенсіянерам МУС і МНС, іншых сілавых структур. Паверце мне на слова, у нашай краіне гэта таямніца, якая ахоўваецца за сям'ю пячаткамі. Як вы думаеце, чаму?

Таксама мне не зразумела, чаму, атрымліваючы нашмат большую пенсію, чым шэраговыя беларускія пенсіянеры, "падарваўшыя здароўе" на службе сілавікі пазней працуюць на вельмі адказных пасадах, ніяк не звязаных з іх папярэдняй працай, атрымліваючы пры гэтым выдатныя заробкі. За прыкладамі далёка хадзіць не трэба – былы галоўны шклоўскі міліцыянер Аляксандр Піменаў узначальвае мясцовыя прафсаюзы, былы начальнік бялыніцкай міліцыі Віталь Бізуноў тут жа змагаецца з браканьерамі, пажарнік Бурко ў Бялынічах кіруе прафсаюзам АПК і г. д. Вы самі налічыце дзесяткі, калі не сотні, такіх прыкладаў толькі ў нашым рэгіёне,

*(Заканчэнне на стар. 8)*

## БЕЛОРУССКИЕ ПРЕДПРИЯТИЯ АКТИВНО УВОЛЬНЯЮТ РАБОТНИКОВ

В 2015 году в Беларуси уволили на 83,5 тысячи человек больше, чем приняли на работу.

В 2015 году в Беларуси уволили 778,2 тысячи работников. При этом трудоустроиться смогли на 83,5 тысячи человек меньше. В статистике не учитываются микроорганизации и малые организации без ведомственной подчиненности, сообщает tut.by.

Найти работу в прошлом году смогли 694,7 тысячи человек, из которых 38,3 тысячи приняли на дополнительно введенные рабочие места.

Количество принятых на работу превышало число уволенных только в июле (на 2,5 тысячи человек), сентябре (на 4,5 тысячи) и октябре (на 3,2 тысячи). В остальные месяцы предприятия активнее увольняли сотрудников, чем принимали новых специалистов. К примеру, в апреле работу потеряли на 18,2 человек больше, чем смогли трудоустроиться.

В декабре уволенных было почти на 11 тысяч больше, чем принятых на работу. В число отраслей, в которых больше увольняли, чем принимали, попали промышленность (-39,5%), сельское и лесное хозяйства, охота (-35,7%), строительство (-35,1%), рыболовство и рыбоводство (-25%), сфера «гостиницы и рестораны» (-24%).

Напомним, на 1 марта уровень официальной безработицы в Беларуси составил 1,1% от экономически активного населения. На учете в службах занятости числилось 51,1 тысячи человек.

### Так і сказаў

«Пустыя грошы раздавацца не будуць. Крэдытавацца будуць толькі эфектыўныя праекты, і каб прэтэндаваць на дзяржпадтрымку, неабходна будзе спачатку самым жорсткім чынам аптымізаваць выдаткі».

***Андрэй Кабякоў***

# У КРУГЛЫМ УЗЯЛІСЯ ЗА БЕСПРАЦОЎНЫХ

**У райцэнтры Круглае беспрацоўных папярэдзілі, што яны будуць зняты з уліку ў цэнтры занятасці насельніцтва, калі яны не пажадаюць выбраць для працаўладкавання працоўныя вакансіі, якія ім прапаноўваліся ўжо не менш за двух разоў. Райвыканкамаўскіх чыноўнікаў не хвалюе, што часцяком людзям прапаноўваюцца вакансіі, якія абсалютна не адпавядаюць узроўню іх кваліфікацыі і стану здароўя.**

У сакавіку ў Круглянскім райвыканкаме прайшла адмысловая нарада пад кіраўніцтвам начальніка ўпраўлення працы, занятасці і сацыяльнай абароны райвыканкама Галіны Мазок. Прысутным на нарадзе кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый была пастаўлена задача выявіць вакансіі ў сябе на месцах і працаўладкаваць на вольныя месцы беспрацоўных, якія знаходзяцца на ўліку на біржы працы.




Тыя беспрацоўныя, якія стаяць на ўліку на біржы працы, аднак адмаўляюцца ад прапаноўваемых ім месцаў працаўладкавання, былі папярэджаны аб тым, што будуць знятыя з уліку, калі яны не пажадаюць выбраць тыя вакансіі, якія ім ужо прапаноўваліся не менш за два разы. На думку круглянскіх чыноўнікаў, калі чалавек па якой-небудзь прычыне застаўся без працы і жадае яе знайсці, ён прыме любыя ўмовы, тым больш, калі патрэбна ўтрымліваць сям'ю і карміць дзяцей.

Па словах грамадскай актывісткі з Круглага Зінаіды Мілешчанка, праблема працаўладкавання ў Круглянскім раёне з'яўляецца адной з самых вострых. Мясцовыя чыноўнікі імкнуцца зрабіць прыгожы малюнак, пад самымі рознымі падставамі адмаўляючы ў рэгістрацыі ў якасці беспрацоўных у цэнтры занятасці насельніцтва. Тыя м жа людзям, якія ўсё ж здолелі зарэгістравацца на біржы працы, прапануюць нізкааплатныя працоўныя месцы, часцяком не адпавядаючыя ні ўзроўню кваліфікацыі, ні стану здароўя беспрацоўных. Заражж жа чыноўнікі "вынайшлі" новую фішку, каб зменшыць узровень афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных і папросту будуць здымаць з уліку тых людзей, які двойчы не пагадзіліся працаўладкоўвацца на прапануемыя ім вакансіі.

Згодна афіцыйным дадзеным Магілёўскага аблстата, узровень зарэгістраванага беспрацоўя ў Круглянскім раёне на канец снежня 2015 года склаў 0,8% ад эканамічна актыўнага насельніцтва (на канец снежня 2014 г. – 0,2%). Усяго ў лістападзе 2015 г. у эканоміцы Круглянскага раёна было занята 5,8 тысяч чалавек пры агульнай колькасці насельніцтва ў 14,2 тысячы чалавек.

Неабходна адзначыць, што самі круглянскія чыноўнікі налічылі напрыканцы 2014 года ў Круглянскім раёне спачатку аж 1859 так званых дармаедаў (людзей працаздольнага ўзросту, якія афіцыйна нідзе не працуюць). Праўда, пазней красавіку 2015 года гэта лічба чамусьці зменшылася ў іх да "парадку 1,3 тысячы" чалавек.

Згодна дадзеных інтэрнэт-сайта Міністэрства працы і сацыяльнай абароны насельніцтва па стане на 6 красавіка 2016 года ў Круглянскім раёне ў сакавіку прапаноўваліся толькі дзесяць вольных вакансій з узроўнем заробка ад 650 000 тысяч рублёў.

Зараз практычна ва ўсіх арганізацыях Круглянскага раёна адбываюцца чарговыя скарачэнні штатаў працуючых.

Па дадзеных галоўнага статыстычнага ўпраўлення Магілёўскай вобласці, сярэдні памер дапамогі на аднаго беспрацоўнага ў студзені 2016 г. у вобласці склаў 219,9 тыс рублёў, альбо 13,6% ад бюджэта спажывецкага мінімума.

Ну і як зараз выжываць людзям у адным з раёнаў "сацыяльнаарыентаванай і квітнеючай" ужо шмат гадоў Беларусі? А між тым усе "ягадкі" ад бяззменнага кіравання нашых мудрых чыноўнікаў яшчэ чакаюць нас наперадзе...

***Барыс Вырвіч***

## КРИМИНАЛ В БЕЛЫНИЧАХ

23 марта Следстенным комитетом возбуждено уголовное дело по ст. 205 ч. 1 УК (Кража) в отношении неработающего жителя г. Белыничи, 1981 г.р., который 22 марта около 0-30 по ул. Хигрина, находясь в доме знакомого, путем свободного доступа похитил мобильный телефон «ZTE», стоимостью 1 515 000 руб. у сожительницы хозяина дома, пенсионерки, 1955 г.р.

Похищенное изъято. Раскрыто ОУР, сообщает uvd.mogilev.by.

# РАЗОЧАРОВАНИЕ ОТ ПОСЕЩЕНИЯ МУЗЕЯ

**Это событие в Круглом ждали. Последние годы в школе №1 работали над созданием музея. На призыв оказать помощь в создании музея откликнулись многие бывшие школьники. Это была хорошая идея, воссоздать историю развития образования в Круглом и Круглянском районе…**



*Зинаида Милещенко*

Наконец музей открыли, но, если честно, я пережила большое разочарование. Я не знаю, зачем в школе надо было создавать маленькую копию районного краеведческого музея. Зачем сделали копию блиндажа времён ВОВ, словно история и района, и страны, не имеет никаких других значительных исторических событий, и непонятно, каким боком это привязано к истории образования Круглянского района.

Сразу за дверью музея посетителей встречает макет крестьянской избы, а хотелось бы увидеть макет класса, сложно сказать, какого времени. Я помню своё детство, бедность послевоенной жизни, убогость крестьянского быта. А здесь в школьном музее создаётся впечатление достатка. Даже сейчас в наших деревнях в старых домах люди живут более скромно. Создаётся впечатление праздника и богатства, счастья и добра быта наших предков. Но даже не это главное.

Да, в музее собраны старые фотографии, которые было интересно рассматривать. Вот они хорошо отражали жизнь наших отцов, матерей, и даже детей и внуков. Но все фотографии расположены в беспорядке, невозможно найти кого-то знакомого, так как не указаны года снимков поочерёдно. Трудно понять, как развивалось образование в Круглянском районе, сколько было школ, сколько учеников. Как сложилась судьба тех, кто учился в нашем районе. Но почему-то на стенде размещены фотографии бывшего депутата Владимира Коноплёва, который ну никаким боком не является учеником, закончившим школу в нашем районе. И огромное количество фотографий самого создателя музея, директора школы Белянкина Александра Михайловича. Когда-то в Советском Союзе был театр одного актёра. Вот и в школе №1 создан музей одного экспоната.

Меня больше всего поразило то, как на стенде были выставлены фотографии тех, кем может гордиться школа. Почему-то там не нашлось место людям, которых хорошо знают в районе, кто закончил пусть не Круглянскую городскую школу, но он наш земляк. Я хочу сказать о Патрончике Николае Васильевиче. А семья Шафранских! А кардиохирург Ленинградской военной академии Бирюков Андрей! И предприниматель Калин, который спонсировал более десятка лет спорт в нашем районе. Да и нынешний председатель Круглянского райисполкома Шупленков А.А., ведь он тоже окончил школу в Круглянском районе. И много-много тех, кто вложил свой, пусть небольшой вклад, в историю района, кто учился в сельских школах. Почему-то мы не можем гордиться нашими литераторами, такими, как Михаил Кушнеров, Владимир Тишуров и многими другими, теми, кого жизнь раскидала по свету. А их не один десяток.

Осталось за кадром и то, кто был первым основателем образования в Круглянском районе. Кто много лет плодотворно трудился в районо, так, например, как Короватский. Я, конечно, очень признательна лично Белянкину А.М., который более 30 лет руководит школой, и за это хочется сказать ему спасибо от всей души. Неплохо бы смотрелся уголок, посвящённый его плодотворной работе (кто бы спорил, а им сделано немало), но личная скромность не помешала бы, но добавила бы справедливого авторитета.

А сейчас хочу немного написать о партизанском движении в Круглянском районе. Хочется задать вопрос тем, кто пропагандирует этот период нашей истории. Если верить им, то в районе был не один партизанский отряд, который сражался с фашистами. Но ответьте мне, если было столько героев-партизан, то где они были, когда расстреливали мирных жителей (евреев и не только) в Кругломи в Шепелевичах? Почему не дали возможности хоть нескольким из них бежать от расстрела, организовав налёт на охрану колонны обречённых на гибель людей? Почему не пытались их освободить из дома (Гетто), где они ждали расстрела более месяца? Может, хватит уже этих мифов и пора сказать правду? Многие просто прятались по лесам, чтобы выжить, и многие боялись своих земляков больше, чем немцев, потому что «нагадили» при коллективизации. А вот погибших комсомольцев-подпольщиков стоило бы вспомнить в музее поимённо.

Я уходила из музея со смешанным чувством. Я не увидела там слова благодарности тем ученикам, которые вложили свои, пусть скромные, средства в

*(Окончание на стр. 7)*

# БЫВШИЙ ЗАМЕСТИТЕЛЬ ПОЛКОВНИКА СИМОНОВА - РЕКОРДСМЕН ПО СУММЕ ВЗЯТКИ

**Дело бывшего начальника Климовичского РОВД Александр Артеменко, несмотря на достаточно широкое освещение в СМИ, все-таки не вызвало большого резонанса. Объяснить это сложно, тем более, что фигурировала там баснословная сумма – полмиллиона долларов США, которые, как посчитал суд, вымогал и получил от предпринимателя главный районный милиционер.**

Александр Артеменко работал первым заместителем начальника Климовичского РОВД в то время, когда местный райотдел милиции возглавлял наш земляк полковник Юрий Симонов. После перевода Юрия Петровича в 2011 году на должность начальника Белыничского РОВД Артеменко стал начальником милиции в Климовичском районе.

Напомним, в январе 2012 года сообщалось, что МВД и Следственный комитет пресекли преступную деятельность должностных лиц органов внутренних дел и предварительного расследования Климовичского района Могилевской области, вымогавших у предпринимателя 500 тыс. долларов. В группу входили старший оперуполномоченный Климовичского РОВД, старший следователь Климовичского районного отдела управления Следственного комитета по Могилевской области и начальник Климовичского РОВД. Дело в отношении них было возбуждено по ч. 3 ст. 430 Уголовного кодекса Республики Беларусь (получение взятки в особо крупном размере).

Через год климовичские правоохранители сели. В марте 2013 Александр Артеменко получил одиннадцать лет заключения в колонии усиленного режима, а его подельники – восемь и девять лет. Судебные заседания Борисовского межгарнизонного военного суда по их делу проходили за закрытыми дверями. При этом в суде отказывались сообщать журналистам, в чем же суть дела.

Кое-что прояснилось еще через год, когда в Naviny.by появилась информация, что Артеменко и его подельники за деньги занимались устранением, правда, не физическим, конкурентов российских предпринимателей. Подстрекателем к этому был житель Брянской области из города Клинцы, который заманивая конкурентов в Беларусь, подбрасывал им взрывчатые вещества. «Белорусские борцы с преступностью «успешно» обнаружили этот криминальный набор, задержали граждан России, посадили их в ИВС и, выражаясь языком уголовников, начали их «доить». Пленникам ничего не оставалось, как начать платить за свою свободу», - пишут Naviny.by.

Вроде бы все стало понятно, однако осужденный на 11 лет начальник Климовичкого РОВД почему-то решил иначе и стал искать правду посредством СМИ. И летом 2014 года БелаПАН распространил его обращение. «Я в соответствии с законодательством Республики Беларусь и требованием Верховного суда, осужден незаконно, и фальсификация материалов уголовного дела послужила незаконному




приговору», — написал Артеменко в своем обращении к средствам массовой информации.

По словам осужденного, во время суда все его ходатайства необоснованно отклонялись. «Судья (Любовицкий. — БелаПАН) изложил: показания Артеменко не принимать во внимание, так как пытается уйти от ответственности. Это когда я свои показания могу подтвердить из нескольких независимых источников и документально. Вот как соблюдаются в закрытых судебных процессах права человека, Конституция РБ, УПК», — отмечалось в обращении экс-начальника РОВД.

Артеменко утверждал, что никаких денег от гражданина России он не получал, его просто «круто подставили». По его словам, он не один год пытался добиться проверки своих показаний и доводов, однако ответы приходят, что все в отношении него было сделано законно.

«Я, как человек 15 лет отработавший в системе МВД, с достоверностью могу доказать свою невиновность и преступления, совершенные сотрудниками УСК, но жалобы мои просто игнорируются», — говорится в обращении.

*(Окончание на стр. 8)*

## РАЗОЧАРОВАНИЕ ОТ ПОСЕЩЕНИЯ МУЗЕЯ

*(Оконч. Начало на стр. 6)*

создание музея. Не увидела там я и фамилии художника (говорят, что это тоже ученик Круглянской школы Пузырёв А., кстати, очень талантливый художник).

Хочется надеяться, что после «первого блина», музей в конце концов превратится в то, что хорошо отразит надежды и чаяния жителей района, бывших учеников школы. И мы увидим там имена всех тех учителей и работников образования, кто плодотворно и с душой «сеял разумное, доброе, вечное» в нас и наших детях на всей территории Круглянского района, в каждой школе, в каком бы селе она не находилась.

***Зинаида Милещенко***

# ПРА КОНЕЙ, МУДРЫХ КІРАЎНІКОЎ І ПЕНСІЯНЕРАЎ

*(Заканч. Пачатак на стар. 1, 4)*

паважаныя чытачы, таму не буду іх далей пералічваць. На мой погляд, калі вы так жадаеце працаваць на ільготнай пенсіі і ў вас хапае на гэта здароўя, тады вы павінны адмовіцца ад такой пенсіі і атрымліваць толькі зарплату. Альбо ісці працаваць простым працаўніком – у той жа калгас кіроўцам ці трактарыстам, альбо будаўніком у мясцовае ПМК. Дайце ўжо пакіраваць моладзі, якая не можа знайсці сабе працу, бо вы загароджваеце яе сваімі шырокімі плячамі…

А слаўныя льготнікі-“дзяржслужачыя”, якія чамусьці атрымліваюць нашмат большую пенсію, чым сапраўды заслужаныя людзі. Скажыце мне, у якой краіне сакратарка райвыканкама атрымлівае на пенсіі нашмат больш грошай, чым кіраўнік сельгаспрадпрыемства, які паклаў там усё сваё здароўе? Калі не ведаеце, магу адказаць, гэта краіна называецца Рэспубліка Беларусь. І пры гэтым на “заслужанай” пенсіі былыя мудрыя чыноўнікі ўсяляк імкнуцца яшчэ і ўладкавацца на няпыльнае працоўнае месца, каб атрымліваць дадаткова і добры заробак. Тая ж Надзея Серыкава, здаецца, ужо ж папрацавала дастаткова і на пенсіі намеснікам старшыні Бялыніцкага райвыканкама, аднак “покой ей только снится”, стала “газавіком” у бялыніцкім райгазе, працаваць у калгас чамусьці не пайшла. Між тым па Бялынічах ходзяць дзесяткі беспрацоўных маладых людзей, якія б з задавальненнем пайшлі б працаваць у той жа горгаз, дзе яшчэ плацяць больш-менш прыстойны заробак. Аднак не, няхай бацькі лепш аплочваюць за іх падатак на дармаедства, мудрым чыноўнікам і іх сваякам самім салодка жыць трэба…

Не маю сумневу, што і заслужаная шматгадовая пенсіянерка, намесніца старшыні Круглянскага райвыканкама Тамара Аксёнава пасля звальнення з пасады ў вёску працаваць не кінецца…

Зразумела, што тых, хто “рохкаў ля кармушкі” (калі што, гэта не я сказаў, а наш любімы кіраўнік), адагнаць ад гэтай кармушкі вельмі цяжка. Таму і будуць мудрыя чыноўнікі зніжаць бюджэтныя выдаткі, эканомячы на пенсіях, дапамогах па беспрацоўю, скарачаючы сацыяльныя выдаткі і дэкрэтныя адпачынкі. Аднак сябе, любімых, яны крыўдзіць не збіраюцца.

Што мяне яшчэ цікавіць, дык гэта дзе кіраўнікі ў нашым рэгіёне знойдуць вольныя працоўныя месцы, каб і пажылыя людзі пасля падвышэння пенсійнага ўзросту засталіся працаваць, і моладзь сабе працу знайшла. Вось ужо на працягу цэлага шэрагу гадоў колькасць працуючых у Бялыніцкім, Круглянскім і Шклоўскім раёнах стабільна скарачаецца, звальняецца працаўнікоў больш, чым зноў працаўладкоўваецца. Вольных працоўных месцаў з годным заробкам, калі недзе няма “валасатай рукі”, у рэгіёне знайсці практычна немагчыма. Праўда, наш любімы кіраўнік абяцае, што ў бліжэйшы час у краіне будзе створана 50 тысяч новых працоўных месцаў, аднак Рыгоравіч столькі ўжо ўсяго нам абяцаўцаў…

І наогул, я лічу, што асабліва перажываць не трэба, віцэ-прэм'ер Наталля Качанава (дарэчы, таксама пенсіянерка) ужо супакоіла, што пенсійны ўзрост будзе падымацца ў нашай краіне і ў далейшым, тры гады – гэта толькі пачатак. Так што, паважаныя чытачы (асабліва мужчыны), не перажывайце, пенсія шмат каму з нас проста не пагражае. І скардзіцца асабліва не трэба, вы атрымалі тое, за што прагаласавалі на апошніх прэзідэнцкіх выбарах.

**Іван Барысаў**




## Бывший заместитель полковника Симонова - рекордсмен по сумме взятки

*(Оконч. Начало на стр. 7)*

«Хотите знать почему? Отвечаю: ряд высокопоставленных чиновников силовых структур будут уволены с должностей, свыше 10 сотрудников УСК и УБОП, занимающихся фальсификацией уголовного дела, сядут на скамью подсудимых», — заявлял Артеменко.

При этом Артеменко так и не решился назвать фамилии тех сотрудников УСК и УБОП, которые, по его словам, занимались фальсификацией уголовного дела. По всей видимости, 15 лет работы в милиции научили Артеменко «говорить, да не заговариваться», если даже ради собственной свободы он не хочет назвать имена своих обидчиков.

А их наличие выдают полмиллиона долларов – сумма, которую в своем кармане вряд ли мог даже представить глава районной милиции, не говоря уже о ее вымогательстве.

***По материалам gazetanm.eu***

Рэгіён

Грамадска-палітычная газета.
Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Надрукавана на ўласным абсталяванні па адрасе: 213173, Магілёўская вобл., Бялыніцкі р-н, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Наклад 299 асобнікаў. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Падпісана ў друк 07.03.2016 г. у 09-00.